# Голас Радзімы

№ 47 (2189)
22 лістапада 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






**Пра выстаўку твораў жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Жыве Беларусь» у Гайнаўскім музеі на Беласточчыне чытайце карэспандэн[illegible]ю на 6-й старонцы. А фотарэпартаж Я. КА[illegible]ЛІ дапаможа вам адчуць атмасферу гэтай нештодз[illegible]ай падзеі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у гэтай зале выстаўлены творы беларускіх мастакоў; гаворыць Кастусь МАЙСЕНЯ, старшыня грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея; вучні школ з Гайнаўкі аглядаюць вырабы майстроў керамікі; Наталля МАТЫЛІЦКАЯ, студэнтка з Мінска, таксама трапіла на выстаўку «Жыве Беларусь».**





КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## МІЖНАРОДНЫ ЭКІПАЖ

12 лістапада на пасяджэнні Міжведамасная камісія зацвердзіла састаў савецка-японскіх экіпажаў, якія 2-га снежня паляцяць у космас.

У саставе першага экіпажа палкоўнік Віктар Афанасьеў, вядомы касманаўт Муса Манараў, які цэлы год працаваў на арбіце, і японскі журналіст Таехіра Акіяма. У другім экіпажы — падпалкоўнік Анатолій Арцэбарскі, касманаўт Сяргей Крыкалёў, які ўжо пабываў на арбіце, і японская журналістка Рыока Кікуці. Канчатковае рашэнне аб тым, які менавіта экіпаж пойдзе ў космас, будзе прынята Дзяржаўнай камісіяй на касмадроме Байканур перад стартам, назначаным на 2 снежня. Але калі не будзе ніякіх нечаканасцей, то ў палёт пойдзе першы экіпаж.

Праграма палёту японскага касманаўта разлічана на восем сутак, шэсць з іх ён прапрацуе на станцыі «Мір» і затым вернецца на Зямлю разам з Генадзем Манаковым і Генадзем Стракалавым, а савецкія касманаўты, якія стартуюць з японскім журналістам, прадоўжаць работы на арбіце ў якасці восьмага асноўнага экіпажа станцыі «Мір». Акрамя серыі прамых тэлерэпартажаў, японскі журналіст правядзе таксама некалькі медыка-біялагічных эксперыментаў.

ПАВЕДАМЛЕННЕ З НЬЮ-ЙОРКА

## СУСТРЭЧЫ МІНІСТРА

Міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка, які знаходзіцца ў Нью-Йорку, выступіў перад выкладчыкамі і аспірантамі-саветолагамі Інстытута па вывучэнню Савецкага Саюза імя А. Гарымана Калумбійскага універсітэта. Характарызуючы становішча ў рэспубліцы, ён асабліва выдзеліў праблему выжывання беларускай нацыі ва ўмовах чарнобыльскай катастрофы. У якасці прыярытэту ў рабоце беларускай дэлегацыі на сесіі ААН міністр выдзеліў намаганні, накіраваныя на прыняцце Генеральнай Асамблеяй рэзалюцыі па расшырэнню міжнароднага супрацоўніцтва ў справе ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і на стварэнне пад эгідай ААН спецыяльнага фонду для фінансавання праграм міжнароднай дапамогі.

П. Краўчанка сустрэўся таксама з супрацоўнікамі Інстытута па даследаванню праблем бяспекі ў адносінах паміж Усходам і Захадам. У сваім выступленні міністр спыніўся на асноўных задачах знешняй палітыкі рэспублікі, якія вынікаюць з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.

АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ



Электронныя памочнікі мастакоў-дэсінатараў тэкстыльных вытворчасцей — сістэмы аўтаматызаванага праектавання (САПР) укараняюцца на Мінскім і Ленінградскім камвольных камбінатах, Жлобінскай фабрыцы штучнай футры, Гродзенскім і Чарнігаўскім тонкасуконных камбінатах. Комплексную распрацоўку гэтай сістэмы і забеспячэнне да яе зрабілі інжынеры-праграмісты Рэспубліканскага вылічальнага цэнтра Міністэрства лёгкай прамысловасці БССР. З яе дапамогай у кароткія тэрміны можна стварыць бязмежную колькасць варыянтаў малюнкаў, тэкстыльных структур і спляценняў тканін.

НА ЗДЫМКУ: аўтары распрацоўкі новай САПР інжынеры-праграмісты Алена БУРАВА і Леанід ЛІЎШЫЦ.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## ТРЭЦЯЕ ПАСЯДЖЭННЕ

У Мінску адбылася канферэнцыя экспертаў СССР і ФРГ па пытаннях падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў у галіне эканомікі. Гэта ўжо трэцяе такое пасяджэнне, праводзімае ў адпаведнасці з пагадненнем паміж урадам абедзвюх краін аб паглыбленні супрацоўніцтва ў падрыхтоўцы кадраў у галіне эканомікі. У складзе нямецкай і савецкай дэлегацый — супрацоўнікі МЗС ФРГ і Гандлёва-прамысловай палаты СССР, міністэрстваў і фірм, вышэйшых школ і інстытутаў.

Удзельнікі канферэнцыі разгледзелі ход выканання праграмы супрацоўніцтва за 1990 год, праект праграмы на 1991 год і меры па яе рэалізацыі. Абмеркавалі яны таксама і напрамкі супрацоўніцтва ў перыяд пасля сканчэння тэрміну дзеяння данага пагаднення.

Савецкія і нямецкія эксперты пры камісіі СССР і ФРГ па эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву ў вольны ад пасяджэнняў час наведалі завод «Інтэграл», школу менеджэраў пры Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі. Адбыліся сустрэчы ў Савеце Міністраў БССР, Гандлёва-прамысловай палаце рэспублікі.

У ШТАБ-КВАТЭРЫ ЮНЕСКА

## АДЗНАЧАЮЦЬ ЮБІЛЕЙ СКАРЫНЫ

Па рашэнню сакратарыята ЮНЕСКА, 14 лістапада ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы праведзена памятная цырымонія, прысвечаная 500-годдзю з дня нараджэння беларускага асветніка-гуманіста, першадрукара Францыска Скарыны. Святкаванне гэтага юбілею ўключана ў міжнародны каляндар памятных дат і вялікіх падзей, які выдае ЮНЕСКА і шырока распаўсюджваецца ва ўсім свеце. Для ўдзелу ў правядзенні гэтага мерапрыемства ў Парыж вылецела афіцыйная дэлегацыя Беларускай ССР на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі, старшынёй аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванню 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны Н. Мазай.

У штаб-кватэры ЮНЕСКА арганізаваны кніжная выстаўка, прысвечаная 500-годдзю Ф. Скарыны, і тэматычная фотавыстаўка «Францыск Скарына і яго эпоха». Ад Беларускай ССР у дар ЮНЕСКА перададзена карціна народнага мастака СССР М. Савіцкага «Я—Скарына». Яна створана мастаком да юбілею вялікага земляка.

У рамках юбілейных урачыстасцей у ЮНЕСКА праводзіцца паказ кінафільма «Францыск Скарына», які перакладзены на французкую мову і будзе перададзены сакратарыяту ЮНЕСКА. Адбыліся выступленні фальклорнага ансамбля «Ку нка», дэманстрацыя работ народных майстроў.

Беларуская дэлегацыя прыняла ўдзел у вечары, які адбыўся ў таварыстве «Францыя — СССР», сустрэлася са студэнтамі факультэта ўсходнееўрапейскіх моў Сарбонскага універсітэта.

*«Гэта звычайна нашы паважаныя ветэраны абураюцца: вось разбрыдаюцца грамадзяне Саюза ССР па нацыянальных кватэрах. Самі яны, на жаль, усё жыццё правялі ў камуналках, у нягодах і нястачы, упарта і безвынікова пераадольваючы іх, і дзяцей сваіх хочуць пакінуць галечы. А чалавек павінен мець сваю кватэру, і народ павінен мець сваю зямлю і свой бацькоўскі дом. Калі навядзём парадак у сваёй хаце, як кажуць беларусы, тады можам зірнуць, а што ж у суседа робіцца, у другім пад'ездзе: калі ў гэтых нацыянальных кватэрах будзе парадак, то будзе парадак і ва ўсім саюзным доме.*

*Цяпер усе рвуцца з гэтага агульнага дому, гэтага Саюза, а потым, калі ўсё адцэнтруецца, калі кожны навядзе парадак у сваім доме, няма сумнення, пойдзем насустрач адзін аднаму. Ды і зараз ужо ідзём, шукаем кантакты, дзелавыя сувязі. Мне ў гэтым плане вельмі сімпатычны наш старшыня Саўміна Вячаслаў Кебіч. Па яго ініцыятыве ва ўмовах, калі распадаюцца, не дзейнічаюць унутрысаюзныя сувязі, нягледзячы на грозныя ўказы прэзідэнта, Беларусь пайшла на прамы дыялог з сярэднеазіяцкімі і закаўказскімі рэспублікамі, Казахстанам, Украінай, Расіяй, Літвой, Латвіяй. З імі падпісаны доўгатэрміновыя дагаворы аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. Не сумняваюся, што гэтыя пагадненні стануць своеасаблівым буферам, які замартызуе ўдар па эканоміцы рэспублікі ў пераходны перыяд да рынку».*

*(Міхась ТКАЧОЎ, намеснік старшыні сойма БНФ).*

АВІЯПІРАЦТВА

## «САМАЛЁТ — У СТАКГОЛЬМ!»

12 лістапада ў 19 гадзін 50 мінут у аэрапорце Мінск-2 зрабіў пасадку пасажырскі самалёт ТУ-154. На яго борце было 142 чалавекі. Ён выконваў рэйс Ленінград — Львоў. Пасадка адбылася па просьбе камандзіра экіпажа.

А здарылася наступнае. На 20-й мінуце пасля таго, як самалёт адарваўся ад узлётнай паласы Ленінградскага аэрапорта, камандзіру экіпажа праз сцюардэсу была перададзена запіска з патрабаваннем змяніць курс палёту, ляцець у Стакгольм. Пры невыкананні загадусамалёт пагражалі ўзарваць.

Як высветлілася, запіску паслаў 18-гадовы жыхар Набярэжных Чалноў. Экіпажу ўдалося перахаваць паветранага тэрарыста зрабіць пасадку ў аэрапорце Мінска.

Супрацоўнікі аэрапорта і міліцыі, якія прыбылі на борт самалёта, затрымалі злачынцу. Пад яго крэслам былі выяўлены цэлафанавы пакет. У ім — каробка з-пад абутку, перавязаная шнурком. Два правады з яе ішлі да выключальніка...

Пасля агляду самалёт прадоўжыў палёт па маршруту.

Гэта ўжо не першы выпадак авіяпіратства на лініях Аэрафлоту. На шчасце, у тэрарыстаў, як правіла, не знаходзяць узрыўных прыстасаванняў. Але нават і гэтыя пагрозы выклікаюць нервовасць у пасажыраў, экіпажаў, служб бяспекі палётаў, прыносяць вялікія матэрыяльныя страты.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Тры з паловай тысячы тон гародніны паставіць у гэтым годзе гараджанам саўгас «Маладая гвардыя» Брэсцкага раёна — памідоры, агуркі, кабачкі, цыбулю, сельдэрэй. Асноўнае ж месца сярод гэтай вітамінная прадукцыі займае капуста. На плошчы сто гектараў вырошчваецца яе два сарты: вядомая ўсім белакачанная, прыгодная для засолкі, і альмагель, якая вельмі добра захоўваецца зімой у свежым выглядзе.

Уборка гародніны ў саўгасе заканчваецца. У гэтым немалую дапамогу працаўнікам сяла аказалі шэфы —работнікі Брэсцкага дыванавага аб'яднання. І сярод іх — лабарант Марыя БІРУК (на здымку).

ЗДАРЭННЕ

## АТРУЦІЛІ РАКУ

3 лістапада ў выніку нядбайнасці, дапушчанай аператарамі вытворчага аб'яднання «Палімір» у Наваполацку, адбыўся выкід у каналізацыйную сетку ацэтонцыянгідрыну, вельмі ядавітага хімічнага злучэння. Праз няспраўны каналізацыйны калодзеж небяспечная вадкасць хлынула ў раку Ушача, а затым — у Заходнюю Дзвіну.

Трэба сказаць, што кіраўніцтва аб'яднання пра біяду ў кампетэнтныя органы не паведаміла адразу. А трэба ж было з першых хвілін біць ва ўсе званы!

У выніку ў Заходнюю Дзвіну было скінута звыш 1 600 кубічных метраў сцёкавых вод, атручаных ацэтонцыянгідрынам. Гэта выклікала рэзкае атручэнне рыб і забруджанне ракі на многія кіламетры. З'явілася пагроза пападання яду ў пітную ваду насельніцтва суседняй Латвіі.

Пра надзвычайнае здарэнне ў Наваполацку было паведамлена прыродаахоўным органам і Савету Міністраў Латвіі, якія прынялі шэраг мер па прадухіленню атручэння водакрыніц.

Паводле папярэдніх падлікаў, навакольнаму асяроддзю, народнай гаспадарцы краіны нанесена шкода на мільёны рублёў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Гродзенская абласная доследная сельскагаспадарчая станцыя, што ў Шчучыне, пераўтворана ў навукова-даследчы інстытут.

Цяпер гэта новая ўстанова і будзе забяспечваць навуковымі распрацоўкамі і рэкамендацыямі працаўнікоў аграпрамысловага комплексу свайго рэгіёна.

● Славутая Альбуцкая сядзіба, з якой звязаны дзіцячыя і юнацкія гады Якуба Коласа, стала філіялам Літаратурнага музея песняра. Адкрыццё музея ў Альбуці — значная падзея для ўсіх, хто ведае і шануе Коласаву спадчыну. Менавіта ў гэтай мясціне найдужэй жыла сям'я Міцкевічаў. У леснічоўцы Альбуць адбываліся і многія памятныя падзеі ў жыцці сям'і Міцкевічаў, што пазней ляглі ў аснову неўміручай «Новай зямлі».

● Цераз Днепр, на трасе Гомель — Калінкавічы, побач з існуючым, будуецца новы мост шырынёй 11,5 метра. Комплекс работ для заказчыка абыдзецца ў пяць мільёнаў рублёў. Праз тры з палавінай гады, калі будаўніцтва завершыцца, стары мост будзе рэканструяваны. Потым плануецца будаўніцтва новага пуцепровода.

## ДЗЕЛАВЫЯ СУВЯЗІ

# ТОРФ І КАВА: ЯКАЯ ЗАЛЕЖНАСЦЬ?

Нядаўна з Хашыміна вярнулася група вучоных Беларускага інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў АН БССР. Яго дырэктар акадэмік І. Ліштван расказаў, што галоўнай мэтай іх знаходжання ў В'етнаме было падпісанне дагавора аб пастаўцы туды абсталявання для вытворчасці комплексных грануляваных угнаенняў. Інтарэс да яго праяўлены з боку Аб'яднання кававых прадпрыемстваў правінцыі Даклак і Інстытута механікі горада Хашыміна. У абмен на гэтае абсталяванне Беларусь можа атрымаць дадатковыя тоны кавы.

— Наш інстытут не адзін дзесятак год займаецца праблемамі выкарыстання торфу ў народнай гаспадарцы,— расказвае акадэмік.— Прадбачу пытанне: у якой залежнасці знаходзяцца торф і кава? Раней торф у нас лічыўся выключна сыравінай для паліва. Яму абавязана сваім нараджэннем беларуская энергетыка, што развівалася на першым часе на гэтым танным паліве. Значнае павелічэнне за апошнія два дзесяцігоддзі ўраджайнасці збожжавых таксама вынік багатай падкормкі палёў тарфянымі ўгнаеннямі. Тут навучыліся атрымліваць з торфу воск, падобны па якасці на каштоўны пчаліны воск, касметычныя вырабы, лекавыя прэпараты, розныя фарбавальнікі. Але самымі папулярнымі сталі рэгулятары росту раслін. Іх у нас набываюць спецыялісты Бразіліі, Вялікабрытаніі, Фінляндыі, ЗША, Югаславіі... Менавіта магчымасці гэтых рэгулятараў і дэманстравала ў Хашыміне группа нашых вучоных на чале з маім намеснікам А. Цярэнцьевым, якая прыняла ўдзел у рабоце міжнароднага сімпозіума па даследаванню і выкарыстанню торфу. Экспанаты выстаўкі выклікалі вялікую цікавасць у в'етнамскіх спецыялістаў: знайсці новае прымяненне торфу ў В'етнаме, запасы якога там перавышаюць, па ацэнках спецыялістаў, дзесяць мільярдаў тон, можа аказацца справай вельмі перспектыўнай. Да таго ж беларускія спецыялісты, даследаваўшы в'етнамскі торф, прыйшлі да высновы, што ён можа стаць добрай сыравінай для вытворчасці комплексных грануляваных угнаенняў, якія могуць выпускацца на беларускім абсталяванні. Прычым эфект прымянення гэтых угнаенняў ужо даказаны на практыцы. Старшы навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў В. Федарэнчык працяглы час вёў назіранні за кававымі дрэвамі, падкормленымі такімі ўгнаеннямі.

— Кававых зярнятаў на іх значна больш, чым на іншых,—гаворыць ён.—Угнаенні валодаюць высокай устойлівасцю да вымывання пажыўных элементаў. А гэта істотны фактар у кліматычных умовах В'етнама, дзе пастаянна ідуць дажджы. Акрамя таго, несумяшчальныя з нітратамі, не ўтрымліваюць і не садзейнічаюць іх назапашванню ў глебе.

В'етнамскія спецыялісты разумеюць, што практыкі выкарыстання такога рэдкага прыроднага прадукта, якім з'яўляецца торф, у беларусаў больш. На сустрэчах, сімпозіумах і ў ходзе сумесных распрацовак мы дзелімся з в'етнамскімі калегамі вопытам, каб яны не паўтарылі тых памылак, якія дапусцілі мы, няшчадна эксплуатуючы торф.

—Невычарпальных калодзежаў у прыродзе не існуе, —працягвае акадэмік І. Ліштван.—Торф—самы малады ў геалагічных адносінах цвёрды гаручы выкапень. Беларускія вучоныя навучыліся здабываць з торфу каля сотні рэчываў і злучэнняў, з якімі звязана будучыня хіміі, мікрабіялогіі, фармакалогіі і іншых галін. Але мы ўстрымліваемся так інтэнсіўна эксплуатаваць торф, пакуль не ўзновім яго колькасць, каб захаваць прыродную раўнавагу. Перавагу сёння аддаём толькі стварэнню рэгулятараў росту раслін. Для гэтага ў нас і была створана ўстаноўка па вытворчасці комплексных грануляваных угнаенняў. Неўзабаве яна будзе пастаўлена аб'яднанню кававых прадпрыемстваў правінцыі Даклак. Сумесна з в'етнамскім бокам мы падпісалі дагавор аб далейшым сумесным супрацоўніцтве. Абгавораны ў гэтым дакуменце і перспектывы: у Аб'яднанне кававых прадпрыемстваў правінцыі Даклак будуць накіраваны беларускія спецыялісты для ўзгаднення пытання аб аснашчэнні абсталяваннем ужо цэлага завода па вытворчасці комплексных грануляваных угнаенняў.

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# І СВЯТА, І ДРАМА

АЦЭНКІ Кастрычніцкай рэвалюцыі сёння вызначаюцца крайняй рознагалосіцай, палярнасцю і непрымірымасцю: ад «Кастрычнік — вялікі гістарычны выбар народа» да «Кастрычнік — трагічная памылка, стартавы пункт шляху, які прывёў краіну ў тупік». Адчувальна не хапае адзіна неабходнай заўсёды, а ў сучаснай выбуховай сітуацыі асабліва — аб'ектыўнай, узважанай, усебаковай ацэнкі. Разнастайнасць думак у прынцыпе заканамерная — як адлюстраванне пазіцый розных палітычных сіл грамадства, якое адмовілася ад штучнага адзінадушша, але яшчэ не набыло навыкаў паважлівых адносін да свайго мінулага.

У нейкай меры паўтараецца сітуацыя 20-х гадоў, калі на старонках друку, у вусных дыскусіях суседнічалі і спрачаліся паміж сабой розныя пункты гледжання на Кастрычнік — не толькі пераможцаў, але і пераможаных. Натуральна, што сцвярджаўся першы, дарэчы, таксама зусім не аднalінейна, дастаткова свабодна і аб'ектыўна. Не паўтарылася б толькі ў люстэркавым адбітку сітуацыя 30-х, калі да крайнасці дагматызаваны і скажоны сталінскай інтэрпрэтацыяй гэты пункт гледжання быў кананізаваны ў якасці адзінага, свяшчэннага і недатыкальнага. Закліканая ў такім выглядзе прыкрыць сабой сутнасць сталінскага контррэвалюцыйнага перавароту, яна з тым большым стараннем выстаўляла сталінскую практыку (таталітарнага рэжыму) за паслядоўнае ўвасабленне ідэй Кастрычніка, за сацыялізм. Прыём удаўся настолькі, што большасцю людзей і сёння сацыялізм атаясамліваецца з яго сталінскай мадэллю. Тут, уласна, падаплёка ўсплеску адмоўных ацэнак Кастрычніцкай рэвалюцыі. Хаця разам з тым, вольна ці нявольна (у каго як), самі гэтыя ацэнкі — зноў аднабаковасць, па тых жа сталінскіх шаблонах, толькі перавернутых. Каб дагадзіць ужо іншым палітычным дактрынам і амбіцыям. Вольна ці нявольна яны выступаюць сродкам стварэння вобраза новага ворага, спосабам узбуджэння сацыяльнай незадаволенасці. Яны зноў выказваюць тэндэнцыю да разбурэння, прычым у пару, калі ўжо вырысоўваўся, хаця і з адставаннем, шлях стварэння — праз кардынальныя рэформы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Успомніць бы толькі, што бескарысная справа — аддаваць анафеме рэвалюцыі, аб'яўляць іх «жахлівай змовай», «пераваротам кучкі азлобленых людзей», «зачыншчыкаў і падбухторшчыкаў». Так ужо было (у адносінах хаця б да Вялікай французскай рэвалюцыі пасля рэстаўрацыі манархіі Бурбонаў). Было і засталося знакам антыгістарычнага, вузкапалітызаванага, не здольнага да мнагамернага ўспрыняцця з'яў мыслення. Пройдзе час, улягуцца страсці — гэты лёс напаткае і ўсе аднамерныя, як усхваляльныя, так і знішчальныя ацэнкі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Пасля таго — не значыць у выніку таго. Ніводная з рэвалюцый не дасягала цалкам і адразу сваіх мэт. Кастрычніцкая, бадай, менш за іншых. І яна, як іншыя, шматаблічная. Традыцыя сталінісцкай трактоўкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, не зжытая да гэтага часу, надавала ёй асобы статус, адводзіла асобае месца і ролю. Гэта не дазваляла бачыць яе агульныя з іншымі рысы. І дазваляла раней нястрымна ўсхваляць і гераізаваць Кастрычнік, а цяпер дазваляе ганіць. Рэвалюцыя ж—заўсёды вельмі моцны сацыяльны выбух, стыхійны ўсплёск народнага гневу, бунт супраць абрыдлых парадкаў, якія адчуваюцца большасцю народа як варожыя для яго. Думаць, што невялікія радыкальныя партыі здольны выклікаць штучна, справакаваць такі выбух — памылка. Рэвалюцыя — заўсёды расплата за грахі мінулага, заўсёды параджэнне папярэдняй эпохі. І таму — заўсёды прарыў з тупіка, пралом у глухой сцяне, якую па неразуменню і коснасці спрабуюць узвесці камандуючыя групы і класы на шляху перамен, на шляху прагрэсу. Яна — гераічны эпас і драма, трагедыя і вялікая надзея, боль і пакуты, але і свята прыгнечаных і абяздоленых.

Рэвалюцыі не паскараюць увасабленне ўжо выспелых у глыбіні грамадскай думкі новых ідэалаў. Шлях сацыяльных рэформ, як сведчыць гісторыя, заўсёды больш кароткі, гладкі і, галоўнае, менш хваравіты, чым шлях, пракладзены сацыяльным выбухам, які разбурае не толькі струхлелыя структуры старога ладу, але і цалкам дзеяздольныя, патрэбныя, здаровыя, расколвае людское супольніцтва (аж да асобных сямей) на варожыя лагеры, на «сваіх» і «чужых», надоўга пасяляе ў сэрцах жорсткасць, нецярпімасць, нянавісць.

Пры ўсім пры гэтым у рэвалюцыях праяўляюць сябе гістарычныя сілы развіцця, якія ператварыліся ў разбуральныя выбуховыя з прычыны крайне неспрыяльных умоў. Адна з асноўных — надзвычай высокі ўзровень канцэнтрацыі ўлады ў руках пануючага слоя, групы, адной асобы, гэта значыць таталітарызм дзяржаўнай сістэмы (абсалютысцкага ці алігархічнага тыпу — неістотна) і, значыць, надзвычай вялікі разрыў між узроўнямі жыцця гэтага слоя і большасці народа. Прызначэнне, падабенства і разам з тым гістарычнае апраўданне ўсіх рэвалюцый (пачынаючы з англійскай — XVII стагоддзе, французскай — XVIII стагоддзе і канчаючы трыма расійскімі) у тым, што яны, апрача расчысткі шляху фармацыйным зменам, мелі сваёй мэтай замену таталітарнай сістэмы ўлады сістэмай дэмакратычнай. Менавіта таталітарызм — прычына страты грамадствам дынамізму развіцця, што ў той жа момант патрабавала рэформ. І толькі іх правал ушчыльную падводзіў да рэвалюцыі.

Адна з прычын правалу рэформ — слабасць здаровых сіл у кіруючых структурах грамадства, у недальнабачнасці, драхласці, тупасці сіл кансерватыўных, агрэсіўнасці праварадыкальных. Другая — у залішнім леварадыкалізме сіл рэвалюцыйных, якія лічаць за лепшае скальпель (нямірныя сродкі барацьбы), а не інтэнсіўную тэрапію (мірныя ненасільныя сродкі). Атакуемы з двух бакоў цэнтр — адзіны гарант рэформ — аказваецца зламаным. Левы і правы франты сыходзяцца ў лабавым сутыкненні. Настрой мас, змучаных цяжкім жыццём, якія зняверыліся ў рэформах—палавінчатых, што зацягнуліся і не даюць бачнага эфекту,— рэзка мяняецца на карысць рэвалюцыйных сіл. Сышлося. Сацыяльны дынаміт гатовы.

Крах рэформ — рэвалюцыя. Такая логіка вырашэння крызіснай сітуацыі, логіка палітычнай барацьбы, якая перарастае ў адкрытую. Бальшавікі ў перыяд ад лютага да кастрычніка 1917 года зразумелі гэтую логіку лепш за іншых, лепш за іншых пачулі голас пралетарскай вуліцы, голас сялянскай вёскі, голас народа, знямогшага ад вайны. Леніну належаць словы: «Ці знайшоўся б на свеце хоць адзін дурань, які пайшоў бы на рэвалюцыю», калі б улады змаглі своечасова ажыццявіць тыя рэформы, якія так патрэбны былі грамадству і народу, калі б сваёй палітыкай не давялі краіну да развалу, а народ да мяжы цярпення.

Лютаўскі выбух замешаны галоўным чынам на антысамадзяржаўных, антыталітарных, антыпамешчыцкіх дражджах, кастрычніцкі — здэтанаваў у асноўным на паралічы ўлады. Часовы ўрад вычарпаў да дна крэдыт даверу нават сярод тых, на каго абапіраўся. Як успамінаў Барыс Савінкаў, літаральна напярэдадні паўстання да яго прыйшла група афіцэраў.

— Падтрымліваць Керанскага не будзем,—заявілі яны.

— Панове, але ж тады прыйдуць бальшавікі.

— Няхай. Лепш бальшавікі, чым Сашка.

Люты і Кастрычнік — гэта цікавыя фазы аднаго працэсу. Кастрычніцкая рэвалюцыя была нацэлена на вырашэнне тых агульнадэмакратычных задач, якія аказаліся не па зубах Лютаўскай. Яе цалкам сацыялістычны характар — яшчэ адзін міф сталінскай трактоўкі. Сацыялістычная па перспектыўных мэтах, не больш, але агульнадэмакратычная па канкрэтнаму зместу вырашальных задач. Ці не таму і была яна самай бяскроўнай. Аднак партыі, якія яе ўзначалілі (не толькі бальшавіцкая, але і саюзная ёй левазсэраўская) не змаглі ўтрымаць лавіну стыхійнага бунту, стрымаць хвалю «охласа», што вылілася на вуліцы, не змаглі знайсці формулу згоды са сваімі ўчарашнімі саюзнікамі і апанентамі-меншавікамі. І як вынік — не змаглі завяршыць рэвалюцыю нацыянальным прымірэннем бакоў, вярнуць ход падзей у рэчышча рэформ. У бальшавіцкай партыі запанавала тэндэнцыя падпарадкаваць учарашніх саюзнікаў сваёй дактрыне, забраць іх пад «свой дах», нецярпімасць да любой апазіцыі (вечны грэх пераможцаў, упэўненых у абсалютнай праўдзівасці свайго бачання сітуацыі, сваіх уяўленняў аб мэтах руху і шляхах іх дасягнення). Праявілася і ўласцівая ўсякай маладой уладзе безаглядная рашучасць у самасцвярджэнні.

Але пры ацэнцы Кастрычніка варта помніць (і гэта таксама рыса ўсіх рэвалюцый), што спосаб дзеянняў, больш таго, характар і змест унутранага развіцця рэвалюцыйных сіл у многім, калі не рашаюча, вызначаецца спосабам дзеянняў сіл контррэвалюцыйных, звергнутых груп і класаў, ступенню іх гатоўнасці і здольнасці пайсці на кампраміс, адмовіцца ад былых прывілей, ступенню іх непрымірымасці, бязлітаснасцю і арганізаванасцю іх супраціўлення. Лідэры контррэвалюцыйных сіл пасля некалькіх месяцаў трыумфальнага шэсця Савецкай улады, адышоўшы ад шока і атрымаўшы падтрымку, маральную і матэрыяльную, замежных дзяржаў, зрабілі стаўку выключна на сілу, на ўзброенае супраціўленне. Вынік канфрантацыі — трагедыя грамадзянскай вайны. Затым нэп — спроба вярнуцца на шлях разумных сацыяльных рэформ, пераходу да грамадзянскага міру і нацыянальнага прымірэння. І няўдача гэтай спробы, заменай якой стаў казарменны сацыялізм, таталітарны палітычны рэжым. Не закранаючы прычын такога павароту (яны патрабуюць асобай гутаркі), адзначу толькі, што не ў рэвалюцыі яго вытокі. Наадварот, ён — разрыў з Кастрычнікам, з дэмакратыяй і сацыялізмам, але прыкрыты яго лозунгамі, яго ідэаламі, яго надзеямі. Не выпадкова перабудова пачалася пад флагам працягу Кастрычніка. Такі аб'ектыўна яе характар і сёння. А вось змест змяніўся. На першым часе працяг бачыўся як удасканальванне ўжо пабудаванага сацыялізму, цяпер стала ясна, што гэтым імем была названа нейкая іншая грамадская сістэма — той самы грубы камунізм, аб небяспецы якога папярэджваў Маркс, і які ёсць «толькі форма праяўлення гнюснай прыватнай уласнасці, што жадае зацвердзіць сябе ў якасці становучай супольнасці». Аднак на справе гэтая супольнасць, паводле Маркса, ёсць «толькі агульнасць працы і роўнасць заработнай платы, якую выплачвае абшчына як усеагульны капіталіст». Атрымалася яшчэ горш: не абшчынай—дзяржавай у асобе яго чыноўнага апарату, яшчэ больш дакладна, вышэйшай чыноўнай эліты.

І вось гэтую сістэму мы цяпер спрабуем дэманціраваць. І не выпадкова сітуацыя ў краіне вельмі нагадвае перадкастрычніцкую. Але дай нам бог утрымацца на рубяжы сацыяльных рэформ. Цярпенне і цярпімасць да сябе падобных, павага да супернікаў і апазіцыі, пошук згоды, міру, а не вайны, умацаванне сіл цэнтра—у гэтым нам дапамогуць. І яшчэ павага да гісторыі, да памяці мінулых пакаленняў, прымірэнне ў нашай памяці тых, хто палёг па абодва бакі барыкад. Гэта ж — людзі. Мёртвыя безабаронныя ад тэрору жывых. Устрымаемся ад нястрымнай пахвальбы адных і ганьбы — другіх. Не будзем ліхаманкава мяняць адны крайнія ацэнкі на супрацьлеглыя, мяняць адны даты і святы на іншыя, адмаўляцца ад адных традыцый у імя іншых. Бескарысна: час і жыццё ўсё вяртаюць на свае месцы, сцёртыя пісьмёны выступаюць на скрыжалях гісторыі. Гэта таксама ўрокі ўсіх рэвалюцый, Кастрычніцкай у тым ліку.

**Аляксей СЦЯПАНАЎ.**

## НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

Ігнатоўскі меў усе падставы быць задаволеным. Задаволены былі і ім. Кіраўніцтва рэспублікі аддавала належнае яго асабістаму ўкладу ў савецкае будаўніцтва, перш за ўсё ў сферы нацыянальнай культуры. Яго дзейнасць ацэньвалася як сведчанне прынцыповага служэння справе Камуністычнай партыі, як прыклад для тых, хто яшчэ вагаўся ў сваім выбары. Зыходзячы з гэтага, у лістападзе 1924 года ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне адзначыць 20-гадовы юбілей «культурна-педагагічнай і рэвалюцыйнай дзейнасці» У. Ігнатоўскага, прымеркаваўшы яго да гадавіны ўтварэння БССР і правёўшы пад «лозунгам дасягненняў нацыянальнай палітыкі рабоча-сялянскай дзяржавы».

На кожным са сваіх галоўных напрамкаў палітыка беларусізацыі дала да канца 20-х гадоў свой плённы вынік. І на кожным з іх выразна прасочваецца асабісты ўклад У. Ігнатоўскага як кіраўніка і арганізатара, прычым не камандзіра-адміністратара, а, хутчэй, стратэга, У рэжысёра, які разам з усімі ў дыскусіі, сілай аўтарытэта, аргумента мог з дакладнасцю вызначыць бліжнія і перспектыўныя задачы, падабраць творчых, самастойных працаўнікоў, аб'яднасць іх у калектыве, размеркаваць па іх здольнасцях і прыхільнасцях абавязкі, скіраваць намаганні. Вось найбольш значныя канкрэтныя вынікі гэтай работы. Вучонымі інстытута беларускай культуры, адпаведных кафедр БДУ былі падрыхтаваны і выдадзены тэрміналагічныя слоўнік па асноўных галінах навукі, распрацоўкі па лексіцы і граматыцы беларускай мовы, дапаможнікаў для школ, тэхнікумаў, інстытутаў. Гэтак жа, як і шэраг прац па актуальных праблемах гісторыі, грамадзянскай думкі і эканомікі Беларусі. Шырокае развіццё атрымалі краязнаўчыя арганізацыі (больш за 10 тысяч членаў, уласны часопіс «Наш край»), На беларускую мову навучання было пераведзена да 80 працэнтаў школ, значная частка тэхнікумаў і вучылішчаў. Разам з тым адкрываліся школы з роднай мовай выкладання для прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей (да 1928 года выкладанне ў школах вялося на Беларусі на васьмі нацыянальных мовах, руская і беларуская ва ўсіх навучальных установах вывучаліся абавязкова). Пашырылася выданне часопісаў, газет, кніг на беларускай мове і адначасова — на рускай, яўрэйскай, польскай. За тры гады на беларускую мову было пераведзена справаводства партыйных, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, пачынаючы з ЦК КП(б)Б, ЦВК і Саўнаркома. Значна ўзрасла доля беларусаў у партыйных і дзяржаўных органах (з 20-30 працэнтаў да 50-60 працэнтаў).

Значны ўплыў аказала беларусізацыя і на палітычныя настроі беларускай эміграцыі, працоўных мас у Заходняй Беларусі. Імкненне да аб'яднання з БССР вызначала галоўны іх сэнс. Як член Бюро замежнай дапамогі, Ігнатоўскі падтрымліваў цесныя сувязі з актыўнымі дзеячамі эміграцыі, у тым ліку з былымі сваімі саратнікамі па БСГ і БПС-Р і таму добра ведаў пра змены ў палітычных лазіцыях эміграцыі. Для яго не было нечаканасцю рашэнне сходу членаў «урада і Рады БНР», які адбыўся ў Берліне 12 кастрычніка 1925 года, аб спыненні барацьбы супраць Савецкай улады, роспуску «ўрада БНР», прызнанні Мінска «адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі». Больш таго, ёсць падставы меркаваць, што ў прыняцці такога рашэння Ігнатоўскаму належыць не апошняя роля. Давер да яго, як прыстойнага чалавека, сумленнага палітыка, яго тлумачэнні сэнсу і мэт беларусізацыі дапамаглі многім з уплывовых радаўцаў пераадолець свае ваганні.

Гэтае рашэнне значна паспрыяла пашырэнню кантактаў. У канцы 1926 года са згоды ЦК КП(б)Б Інбелкульт арганізаваў навуковую канферэнцыю з запрашэннем прадстаўнікоў беларускай эміграцыі і замежных вучоных. Ігнатоўскі ўвайшоў у створаную цэнтральным Камітэтам камісію па падрыхтоўцы канферэнцыі, выступіў на ёй з дакладам. Магчымасць на ўласныя вочы пераканацца ў рэальнасці вынікаў палітыкі беларусізацыі, гутаркі з Чарвяковым, Ігнатоўскім, Жылуновічам, іншымі дзяржаўнымі і культурнымі дзеячамі дапамаглі многім з прадстаўнікоў заходнебеларускага нацыянальнага руху прыняць запрашэнне Савецкага ўрада пераехаць у БССР. У 1927 годзе вярнулася большасць з членаў былой Рады БНР, у тым ліку В. Ластоўскі, А. Цвікевіч.

Зразумела, што ідэалізаваць ход і вынікі палітыкі беларусізацыі не варта. Як і наогул 20-я гады. Эканамічныя і сацыяльна-палітычныя супярэчнасці гэтага перыяду аб'ектыўна былі даволі вострымі. Прагрэсіўнае развіццё краіны па шляху нэпа — гэта рэальнасць, як і дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця. Але ж рэальнасцю было і паступовае разрастанне, узмацненне, асабліва пасля смерці У. І. Леніна, элементаў адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Не даводзіцца здзіўляцца, што ў такіх супярэчлівых абставінах шырокая і дэмакратычная палітыка беларусізацыі набыла ў нечым (парадокс часу) тыя ж адміністрацыйныя грахі. Асноўныя з іх: тэндэнцыя на фарсіраванне яе тэмпаў, залішні ўпор на дырэктыўныя, нават прымусовыя метады, замест растлумачэння, пераканання. Але пакуль перавага была на баку здаровых сіл партыі, творчай інтэлігенцыі, працэс беларусізацыі ў цэлым паспяхова развіваўся, хібы і перакосы пераадольваліся.

Зразумела, што, прымаючы непасрэдны ўдзел у выпрацоўцы і рэалізацыі гэтай палітыкі, У. Ігнатоўскі нёс сваю долю адказнасці і за поспехі яе, і за яе памылкі. Звычайная доля любога актыўнага дзеяча.

### ПАД АГНЁМ «НАВУКОВАЙ» КРЫТЫКІ

Дваццатыя гады былі для У. Ігнатоўскага надзвычай плённымі і ў творчым плане. Больш за 30 навуковых прац— такі вынік. Асноўныя з іх: «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі» (1921), «Матывы лірыкі беларускага песняра М. Чарота» (1922), «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (пяць выданняў), «Беларусь» (чатыры выданні), «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX стагоддзя» (тры выданні), «Каля магілы барацьбіта» (1927), «1863 год на Беларусі» (1930) і іншыя. Як навуковец-даследчык Усевалад Макаравіч вырастаў з выкладчыка. У аснову большасці яго кніг пакладзены курсы лекцый у Мінскім настаўніцкім інстытуце, у БДУ. Апошняя з іх, прысвечаная паўстанню 1863 года,— грунтоўная манаграфія, вяршыня яго творчасці. У сваёй сукупнасці працы Усевалада Макаравіча ці не ўпершыню давалі сістэматызаваны выклад гісторыі Беларусі.

Заклаўшы краевугольныя камяні ў падмурак беларускай гістарычнай навукі, яны адкрылі беларусам іх багатую і гераічную гісторыю, паказалі ім, што яны — народ глыбінных, з сівой даўніны каранёў, а не безназоўнае насельніцтва. На кнігах Усевалада Макаравіча выхоўвалася не адно пакаленне школьнікаў і студэнтаў. Безумоўна не бездакорныя, не беспамылковыя, але сапраўды творчыя, адметныя неардынарнасцю думак і высноў, напісаныя па-мастацку выразным стылем, сакавітай мовай, асноўныя з іх не страцілі свайго значэння і па сённяшні дзень. Прычым не толькі гістарыяграфічнае, але і адукацыйнае, асветніцкае. Гэта асабліва добра бачна цяпер, калі адкрылася, колькі скажэнняў перацярпела наша гісторыя ў цісках сталінскай апалагетыкі, колькі нагрувашчана на яе старонках ілжы, фальсіфікацый, колькі сцёрта падзей і імёнаў.

Падрабязны аналіз творчай спадчыны Ігнатоўскага — справа не аднаго даследавання і не для аднаго даследчыка. У кантэксце ж нашага артыкула перш за ўсё важна адзначыць, што навуковыя погляды Усевалада Макаравіча да 1929 года крытыцы не падвяргаліся. Дакладней, крытычныя заўвагі не выходзілі за рамкі нармальнага навуковага абмеркавання. Працы яго ацэньваліся як «першы марксісцкі курс беларускай гісторыі». Не ставілася пад сумненне і яго практычная дзейнасць. Хаця ўжо накатвалася на вёскі Беларусі навала сталінскай калектывізацыі і ва унісон з ёю ў гарадах набірала моц кампанія па выкрыццю так званага нацыянал-дэмакратызму.

Што за сэнс укладваўся ў гэты тэрмін? Першапачаткова ён разглядаўся як правая небяспека ў культурным будаўніцтве, як тэндэнцыя ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй класавых, што выявілася ў імкненні «вырошчваць нацыянальную форму культуры на шкоду яе пралетарскаму зместу». Выказванні ў адпаведным духу, хаця і ў прыглушаным тоне, мы знойдзем і ў выступленнях Ігнатоўскага. Гэтак жа, як і ў Чарвякова, Жылуновіча. Яны яшчэ не бачылі, не адчувалі, што за небяспека паўстае за гэтай рэвалюцыйнай формулай, пад прыкрыццём якой, штучна распальваючы пажар ідэалагічнай барацьбы, прыхільнікі аўтарытарнага рэжыму хутка распачнуць франтальную атаку на ўсіх напрамках палітыкі. Шмат аб чым не ведалі, аб многім не здагадваліся. Не паспелі разглядзець, зразумець. І таму такім нечаканым, паралізуючым іх волю да барацьбы стаў для іх наступны крок сталіністаў: нацыянал-дэмакратызм атаясамліваўся з нацыянал-фашызмам, з правым ухілам, аб'яўляўся варожай Савецкай уладзе ідэалогіяй і практыкай, контррэвалюцыйнай плынню, якая мела на мэце рэстаўрацыю капіталізму ў БССР і адрыў яе ад СССР. Сацыяльнай базай нацыянал-дэмакратызму аб'яўлялася кулацтва. Гэта быў карэнны паварот у нацыянальнай палітыцы, які цалкам адмаўляў беларусізацыю і з няўмольнай логікай патрабаваў адпаведных метадаў шальмавання, рэпрэсій. Пачыналі з камуністаў-кіраўнікоў, якія выйшлі з нацыянальна-вызваленчага руху, паступова пашыраючы кола абстрэлу.

Тое, што Ігнатоўскі не трапіў у лік самых першых, тлумачыцца яго аўтарытэтам, супраціўлення сталінскаму курсу часткі інтэлігенцыі з партыйнага і савецкага кіраўніцтва. Стрымлівалі, наколькі маглі, змену палітыкі сакратар ЦК КП(б) Б Я. Гамарнік, старшыня АДПУ БССР Р. Піляр.

Невыпадкова вывады камісіі ЦК КП(б), якая ў маі-чэрвені 192[illegible] года вывучала практыку вырашэння нацыянальнага пытання ў Беларусі (узначальваў камісію старшыня Цэнтральнай кантрольнай камісіі КП(б) Украіны У. Затонскі, членамі з'яўляліся сакратар камісіі ЦК КП(б)У па ўкраінізацыі Тур і памочнік Затонскага Кобленц), на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б 17 чэрвеня былі падвергнуты крытыцы. Асабліва ў той іх частцы, дзе сцвярджалася наяўнасць шырокай і моцнай плыні беларускага нацыянал-дэмакратызму ў рэспубліцы, слабае вядзенне барацьбы з ім.

У хуткім часе і Гамарніка, і Піляра адклікаюць з Беларусі. Спешна, нават без замены, якая будзе знойдзена толькі праз два месяцы: 3 студзеня 1930 года першым сакратаром ЦК КП(б)Б стане непрыкметны раней апаратны работнік з Масквы К. Гей, начальнікам АДПУ — Г. Рапапорт. Шэрыя асобы, яны аказаліся стараннымі выканаўцамі чужой волі, правадніками новага курсу, апантанымі выканаўцамі ўскладзенай на іх задачы па выяўленню і разгрому «контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі», якой прыдумаюць назву «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ).

Атака на У. Ігнатоўскага пачалася яшчэ да прыезду ў Беларусь К. Гея, але вельмі асцярожна, крытыкай яго навуковых поглядаў у рэчышчы дыскусіі аб характары паўстання 1863 года. Пэўны час дыскусія разгортвалася даволі спакойна, у рамках нармальнай навуковай спрэчкі. Але вось гісторык С. Агурскі ў выступленні на XII з'ездзе КП(б)Б усё зводзіць да палітыкі. Вульгарызуючы ацэнку паўстання, ён звязвае яе з неабходнасцю барацьбы супраць апартунізму ў гістарычнай і даследчай рабоце, барацьбы з нацыяналізмам. Агурскі ў процілегласць Ігнатоўскаму ацэньваў паўстанне 1863 года як чыста дваранскае, буржуазнае з удзелам нязначнай колькасці заможнага сялянства, як паўстанне выключна за незалежнасць Польшчы. Ролю К. Каліноўскага як рэвалюцыянера-дэмакрата, як правадыра сялянства ў паўстанні, абаронцы яго інтарэсаў, як прадстаўніка беларускага народа ён наогул адмаўляў, заклікаў да барацьбы супраць ідэалізацыі Каліноўскага, за разбурэнне створанага аб ім міфа.

Адказваючы Агурскаму тут жа на з'ездзе, Ігнатоўскі падкрэсліў, што неправамоцна змешваць чыста навуковыя аспекты праблемы з палітычнымі, падмяняць навуковае абмеркаванне пытання аб характары паўстання (што да месца, напрыклад, на канферэнцыі гісторыкаў-марксістаў) палемікай на партыйным з'ездзе. Што да выказанага Агурскім погляду на паўстанне, то Усевалад Макаравіч пераканаўча раскрыў яго метадалагічную заганнасць. Бо сцвярджаць пра шляхецка-дваранскі характар руху 1863 года — значыць прызнаць яго рэтраградным, рэакцыйным рухам, і тады вынікае, што Мураўёў, задушыўшы яго, зрабіў добрую справу. «Так што,— адзначаў Ігнатоўскі, — не заўсёды... «левая» фраза вядзе да правільных вынікаў».

Выступленне Ігнатоўскага на XII з'ездзе КП(б)Б цікавае і ў больш шырокім значэнні: супярэчлівае, яно і ўхваляе агульнапалітычны курс, у тым ліку барацьбу з «правым» і «левым» ухіламі, і ў той жа час прасякнута трывожным прадчуваннем, перасцярогай небяспечных вынікаў змен у палітыцы. Прыведзеныя словы аб «левай» фразе — не выпадковыя.

Менавіта небяспека левага рэвалюцыянарызму — рэфрэн, асноўная ідэя выступлення. Раскрыўшы ленінскія палажэнні аб магчымых сумных выніках «нязначнай» на першы погляд памылкі ў тэорыі і падкрэсліўшы, што трацкізм, пачаўшыся з тэорыі, перарос у контррэвалюцыйную практыку, Ігнатоўскі падкрэсліў: «А ў нас у момант барацьбы з ухіламі — на «левых» і асабліва на «правых» уся маленькая памылка ў тэорыі можа прывесці да вельмі кепскіх вынікаў».

Іларыён ІГНАЦЕНКА,
Аляксей КАРОЛЬ.

(Працяг. Пачатак у №№ 44—46).

## ЛІХТАРЫК ЖЫЦЦЯ У. ІГНАТОЎСКАГА





НА ЗДЫМКУ: У. ІГНАТОЎСКІ з жонкай і сынамі.

